Гродна
№8 (490),
15 красавіка 2018

www.slowo.grodnensis.by

Слова Жыцця
ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Святарскае пакліканне: дар і таямніца



Абрад святарскіх пасвячэнняў

**У IV Велікодную нядзелю, якую называюць Нядзеляй Добрага Пастыра, будзем адзначаць 55-ты Сусветны дзень малітвы аб пакліканнях. У гэты дзень молімся ў інтэнцыі пакліканняў да святарскага, кансэкраванага і місійнага жыцця.**

● працяг на с. 4

“Кожнае пакліканне патрабуе выхаду па-за свае межы, каб засяродзіцца на Хрысце”. Папа Францішак




### III ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Лк 24, 35–48**

Вучні Езуса расказалі пра тое, што здарылася ў дарозе, і як яны пазналі Езуса ў ламанні хлеба. Калі яны казалі пра гэта, сам Езус стаў сярод іх і сказаў: "Спакой вам". Устрывожаныя і напалоханыя, яны думалі, што бачаць духа. Але Ён сказаў ім: "Чаму засмуціліся, і чаму сумненні ўзніклі ў вашых сэрцах? Паглядзіце на Мае рукі і ногі: гэта Я. Дакраніцеся да Мяне і пераканайцеся: бо дух не мае цела і касцей; як бачыце, Я іх маю". Пасля гэтых слоў Ён паказаў ім рукі і ногі.

А калі яны ад радасці яшчэ не верылі і дзівіліся, Ён сказаў ім: "Ці маеце тут што з'есці?". Яны падалі Яму кавалак печанай рыбы. Ён узяў і еў перад імі. І сказаў ім: "Гэта словы мае, сказаныя вам, калі Я быў яшчэ з вамі, што павінна збыцца ўсё напісанае пра Мяне ў законе Майсея і ў прарокаў, і ў псалмах". Тады асвяціў іх розум, каб яны разумелі Пісанне. І сказаў ім: "Так напісана, што Месія павінен цярпець і ўваскрэснуць на трэці дзень з мёртвых, і ў Ягонае імя павінна абвяшчацца пакаянне дзеля адпушчэння грахоў усім народам, пачынаючы ад Ерузалема. А вы – сведкі гэтага".

### АСВЕЧАНЫ РОЗУМ

Апосталы, напоўненыя радасцю ад прысутнасці ўваскрослага Езуса, гатовы былі прыняць новы выклік. Яны зразумелі, што Стары Запавет, г. зн. усё напісанае ў Законе Майсея, здзейснілася праз смерць і ўваскрасенне Збаўцы. Каб яны маглі ўсвядоміць гэтую таямніцу, Хрысту прыйшлося "асвяціць розум" вучняў.

Сёння таксама і нам неабходны далікатныя павеў, які асвеціць наш розум і жыццё. Смерць і ўваскрасенне Божага Сына нясуць свету непахісную надзею.

**Ці здольны я распазнаць Хрыста ў сваёй штодзённасці?**

**Што дапамагае, а што перашкаджае мне ў разуменні Святога Пісання?**

### IV ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Ян 10, 11–18**

Езус сказаў: "Я – добры пастыр. Добры пастыр аддае жыццё сваё за авечак. А найміт і не пастыр, якому не належаць авечкі, калі бачыць, што прыходзіць воўк, кідае авечак і ўцякае, а воўк хапае і разганяе іх. Уцякае, бо ён найміт і не клапоціцца пра авечак. Я – добры пастыр і ведаю сваіх, а Мае ведаюць Мяне, як Мяне ведае Айцец і Я ведаю Айца. І жыццё сваё аддаю за авечак. Ёсць у Мяне і іншыя авечкі, якія не з гэтага двара. І гэтых Мне трэба прывесці, і яны будуць слухаць голас Мой, і будзе адзін статак і адзін пастыр. За тое любіць Мяне Айцец, што Я аддаю жыццё сваё, каб узяць яго зноў. Ніхто не адбірае яго ў Мяне, але Я сам аддаю яго. Я маю ўладу яго аддаць і маю ўладу зноў узяць яго. Такую запаведзь Я атрымаў ад Айца Майго".

### ЗНАЙСЦІ САПРАЎДНАЕ ШЧАСЦЕ

Перад намі сёння стаіць постаць Хрыста, Добрага Пастыра. Гэта Ён "да водаў спакойных вядзе мяне, душу маю пажыўляе, накіроўвае мяне на сцежкі справядлівасці" (Пс 23). Ён, уваскрослы, застаецца з намі на звілістых шляхах гісторыі аж да сканчэння свету. Чаму? Таму што належым да Яго аўчарні, у якой кожная авечка каштоўная, а ўсе іх яднае любоў.

У гэты час давайце глыбей задумаемся над разважлівым падыходам да таго, што прапануе свет, каб у Езусе Хрысце, Добрым Пастыры, мы адкрылі і знайшлі сапраўднае шчасце.

**Якія падзеі дазволілі мне апошнім часам адчуць Божую любоў?**

**Ці стараюся ўслухацца ў голас Бога?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Вядзе да паўнаты шчасця

*Літургія апошніх тыдняў запрашае нас да сустрэчы ў веры з уваскрослым Панам. Разам з вучнямі Хрыста мы праслаўляем Пераможцу смерці, пекла і д'ябла, з'яўляемся таксама сведкамі таго, як Апосталы радаваліся ад прысутнасці Уваскрослага.*

Сёння прагнем глыбей разважаць пра чарговы вобраз Езуса – Пастыра і Вартаўніка душ (параўн.: 1 П 2, 25). У іканаграфіі гэтую постаць Збаўцы часта прадстаўляюць у вобразе маладога пастуха з авечкай на плячах. Не выклікае сумненняў, што першыя хрысціяне інтуітыўна атаясамлівалі пастыра з прыпавесці з уваскрослым Панам.

Гэты вобраз мае доўгую гісторыю. У часы Старога Запавету народы Блізкага Усходу прагнулі бачыць у каралю Добрага Пастыра. І хоць на самой справе старажытныя правіцелі часта прыгняталі сваіх падначаленых, гэта не выкрасліла са свядомасці людзей ідэал кіраўніка, які пакорна клапоціцца аб дараваных яму людзях. Для Ізраэля Бог заўсёды ўспрымаўся як Суцяшальнік прыгнечаных, які выкрываў беззаконні кіраўнікоў з дапамогай сваіх прарокаў.

Пан – Добры Пастыр, Ён заўсёды са сваімі авечкамі. Адчувае іх раны і праблемы, з любоўю клапоціцца пра свой статак. Хрыстос ведае па імені кожнага і шукае таго, калі згубіцца. Прагне абарагаць і суправаджаць людзей, аддаваць усяго сябе, прычым абсалютна бескарысліва. Гэта вялікая таямніца адносін Бога з чалавекам, які ў любові да свайго стварэння не ведае межаў.

Аднак мы часта адчуваем сябе згубленымі ў свеце. Шукаем знакаў, указальнікаў, што вывелі б нас з жыццёвых завірух. У такія хвіліны найлепшае рашэнне – кінуцца ў абдымкі Добрага Пастыра, які ніколі не пакіне чалавека аднаго, бо той належыць да Яго аўчарні.

Як жа быць добрымі авечкамі для нашага Пастыра? Авечка, каб не згубіцца і не стаць лёгкай здабычай для ворага, павінна пакорна, уважліва і асцярожна прыслухоўвацца да голасу пастуха, добра адрозніваць яго сярод іншых галасоў. Павінна таксама безагаворачна давяраць яму, паколькі ў хвіліны небяспекі часта няма часу на разважанні і тлумачэнні.

**Дарагія Чытачы!**

Давайце вучыцца такой пакоры і даверу! Нягледзячы на тое, што наш Пастыр часта вядзе па дарогах, якія не разумеем, якія здаюцца нам цяжкімі, давайце з даверам ісці за Ім, паколькі Пастыр ведае і любіць сваіх авечак. Давайце таксама вучыцца быць указальнікамі дарогі для нашых братоў. Будзем жыць так, каб іншыя авечкі, сустракаючы нас на сваім шляху, не заблукалі, але знайшлі дарогу ў Божае Валадарства.

У імя дабра адкрыем і знойдзем сапраўднае шчасце ў Езусе Хрысце, Добрым Пастыры!




# СВ. ДЖАНА БЕРЭТА МОЛА: ЗАСТУПНІЦА ЎРАЧОЎ



*У іканаграфіі св. Джана Берэта Мола прадстаўлена як клапатлівая маці, часцей за ўсё ў акружэнні дзяцей.*

***З'ўляецца апякункай сужэнстваў, сямей, зачатых дзяцей, цяжарных маці, а таксама арганізацый, якія аб'ядноўваюць урачоў акушэраў-гінеколагаў на службе жыццю.***

**ГЕРАІЧНАЯ МАЦІ**

Джана з'явілася на свет у Маджэнта каля Мілана (Італія) 4 кастрычніка 1922 года ў шматдзетнай сям'і. Ужо ва ўзросце 16-ці гадоў задумвалася аб місійнай працы дзе-небудзь далёка ў трапічных краінах. Запісала тады ў нататніку: "Езу, я абяцаю паддацца ўсяму, чаму Ты дазволіш са мной здарыцца. Учыні толькі, каб я распазнала Тваю волю". А потым выпісала 11 жыццёвых дэвізаў. Між іншым, што ў кіно пойдзе толькі тады, калі даведаецца, ці адпавядае фільм маральным нормам, што кожны дзень будзе маліцца "Вітай, Марыя" ў інтэнцыі добрай смерці і прасіць Пана Езуса, каб не быць асуджанай у пекле.

У 1949 годзе атрымала дыплом у галіне медыцыны і хірургіі, а праз 3 гады здабыла таксама спецыялізацыю педыятра. Па стане здароўя адмовілася ад выезду на місіі ў Бразілію, дзе служыў місіянерам яе брат. Аднак часта дабіралася да хворых у аддаленых і закінутых мясцовасцях. Неўзабаве стала медыцынскім дырэктарам ясляў і бясплатна працавала ўрачом дзіцячага садка і агульнай школы, якую ўтрымлівалі сёстры каначнікі ў Понтэ Нуова дзі Маджэнта.

У 1955 годзе Джана выйшла замуж за 43-гадовага Пятра Молу, уносячы ў шлюбнае жыццё радасць і спантаннае жаданне нарадзіць шмат дзяцей. З вясельнага падарожжа пісала сваёй малодшай сястры манахіні: "Малюся, каб Пан Бог у хуткім часе падарыў мне многа паслухмяных і святых дзяцей". Праз год пасля шлюбу ў іх нарадзіўся сын П'ерлуіджы, які быў ахвяраваны Маці Божай Добрай Рады. Яшчэ праз год на свет з'явілася Марыя Зіта, якую пяшчотна называлі Марыялінай. Праз 2 гады нарадзілася Лаўра. Добра арганізаваная, Джана прысвячала свой час сям'і, якая хутка павялічвалася, і клапацілася аб развіцці ўласнага духоўнага жыцця. Штодзённа раніцай удзельнічала ў св. Імшы, а вечарам на каленях малілася разам з мужам.

У верасні 1961 года, будучы на 2-ім месяцы цяжарнасці, даведалася аб сваім сур'ёзным захворванні, а таксама аб тым, што выратаваць яе можа толькі аперацыя, якая будзе пагражаць жыццю дзіцяці. Рашэнне маці было адназначным: "Выратуйце дзіця любой цаной". За некалькі дзён да родаў яна яшчэ раз сказала мужу і ўрачам: "Абавязваю вас выбраць дзіця". Раніцай 21 красавіка 1962 года свет убачыла Джана Эмануэла, здаровая і прыгожая дзяўчынка. Гераічная маці памерла з малітвай на вуснах праз тыдзень пасля нараджэння дзіцяці. Муж нават не думаў пра тое, каб ажаніцца яшчэ раз, паколькі Джана была ў яго вачах непараўнальнай жонкай і маці.

Джана беатыфікавана 24 красавіка 1994 года, кананізавана – 16 мая 2004 года.

**ЧАМУ МЫ МОЖАМ НАВУЧЫЦЦА Ў СВ. ДЖАНЫ БЕРЭТЫ МОЛЫ?**

Для сучасных жанчын святая з'яўляецца прыкладам гераічнай маці і ўзорам хрысціянскай жонкі. Яе жыццё вучыць удзячнасці за ўсё: не толькі за добрае, прыемнае і лёгкае, але і за крыж. Сведчыць пра тое, як прымаць Божую волю з пакорай і лагоднай усмешкай.

**ЦІКАВА!**

Свае афіцыйныя заручыны пара пачала св. Імшой і прыняццем Камуніі. Затым нарачоныя паехалі на лыжы. Пасля вызначэння даты шлюбу Джана прапанавала будучаму мужу падрыхтавацца да гэтай падзеі праз 3-дзённы пост і супольную малітву.

**З ВУСНАЎ СВЯТОЙ**

"Кахаць – значыць прагнуць удасканальваць самога сябе і любімага чалавека, пераадольваючы ўласны эгаізм".

**ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН**

Касцёл узгадвае св. Джану 28 красавіка.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# ПРОСТАЙ МОВАЙ ПРА САКРАМАНТ КАНФІРМАЦЫІ

**У Касцёле надалей перажываем Велікодны перыяд. Радуемся ўваскрасенню Пана, а таксама рыхтуемся да прыняцця абяцанага Збаўцам Святога Духа. Хутка біскупы вырушаць у розныя куткі дыяцэзіі, каб удзяліць моладзі сакрамант канфірмацыі. Аднак кандыдаты, на жаль, нярэдка да канца не разумеюць усёй сутнасці і важнасці яго прыняцця.**

**Ва ўсіх тонкасцях гэтага святадзейства разбіраемся разам з кс. Андрэем Лішко. Святар звяртае ўвагу на некаторыя моманты, да якіх ні ў якім разе нельга заставацца абыякавымі.**





## НАВОШТА ПРЫМАЦЬ САКРАМАНТ КАНФІРМАЦЫІ?

**Наколькі ён важны для хрысціяніна?**

Як правіла, рашэнне аб уваходжанні ў хрысціянскую супольнасць прымаюць за нас бацькі падчас сакраманту хросту. Канфірмацыя ж з'яўляецца свядомым, добраахвотным і адказным адбіткам веры хрысціяніна і яго прыналежнасці як да Паўсюднага Касцёла, так і да парафіі. Яна таксама ўмацоўвае сувязь з Богам.

Падчас гэтага сакраманту Святы Дух памнажае ў чалавеку свае дары: мудрасць, розум, раду, мужнасць, умеласць, набожнасць і боязь Божую. А акрамя таго, умацоўвае хрысціяніна да сведчання аб веры словам і ўчынкам.



## КАЛІ ТРЭБА ПРЫСТУПАЦЬ ДА САКРАМАНТУ КАНФІРМАЦЫІ?

**Ці можна прыняць гэты сакрамант у 13-гадовым узросце?**

Гісторыя паказвае, што ўзрост, у якім вернікі дапускаліся да прыняцця гэтага сакраманту, дастаткова часта падлягаў зменам. Спачатку канфірмавалі толькі дарослых, адразу пасля прыняцця сакраманту хросту. Пасля пачалі хрысціць малых дзяцей, адразу ўдзяляючы ім канфірмацыю. Практыка ўдзялення канфірмацыі дзецям, якія дасягнулі свядомага ўзросту, распаўсюдзілася на захадзе на рубяжы XIV–XV стагоддзяў.

Дакументы ІІ Ватыканскага сабору і выдадзенага пасля яго Кодэкса кананічнага права падкрэсліваюць неабходнасць асягнення кандыдатамі ўзросту адказнасці за свае ўчынкі (кан. 891), разам з тым дазваляючы Канферэнцыям Біскупаў устанаўліваць іншы ўзрост. У Каталіцкім Касцёле ў Беларусі сакрамант канфірмацыі ўдзяляецца моладзі ва ўзросце 14-15 гадоў. Гэта тлумачыцца тым фактам, што менавіта ў такім узросце моладзь уваходзіць у перыяд сталення, пачынае думаць пра сваю будучыню, усё дакладней пазнаючы праблемы жыцця, таму можа больш свядома падысці і да заданняў, звязаных з прыняццем сакраманту канфірмацыі, лепш зразумець значэнне дароў Святога Духа для фарміравання сваёй асобы. Моладзь можа таксама больш эфектыўна выконваць абавязак сведчання аб сваёй веры.

Аднак па важнай душпастырскай прычыне святар, які клапоціцца аб падрыхтоўцы да сакрамантаў, можа раней дапусціць кандыдата да прыняцця канфірмацыі. Напрыклад, калі кандыдат не мае 14-ці поўных гадоў, ён можа быць дапушчаны да канфірмацыі разам са сваім класам ці равеснікамі. Альбо наадварот, калі кандыдат не выканаў адпаведных умоў падрыхтоўкі (не ўдзельнічаў у занятках рэлігіі, а таксама ў жыцці Касцёла праз наведванне нядзельнай св. Імшы і набажэнстваў), душпастыр можа не дапусціць (адтэрмінаваць) яго да прыняцця сакраманту канфірмацыі.

Нельга забывацца і пра тых, хто па розных прычынах не прыступіў да канфірмацыі ва ўзросце, пазначаным вышэй. Гэтыя людзі павінны выкарыстаць бліжэйшую нагоду, каб пасля неабходнай падрыхтоўкі прыняць дадзены сакрамант.



## ЯКОЕ ІМЯ ВЫБРАЦЬ КАНДЫДАТУ ДА САКРАМАНТУ КАНФІРМАЦЫІ?

**І што рабіць, калі не хочацца "мяняць" уласнае імя?**

Насамрэч, момант выбару імені для сакраманту канфірмацыі не акрэслены ні ў адным з апошніх дакументаў Касцёла, аднак з'яўляецца глыбока ўкаранёным у традыцыі вернікаў. Згодна ёй, праз нашэнне пэўнага імені можна заручыцца падтрымкай нябеснага заступніка. Пажадана, каб гэта была асоба, блізкая па характары, з падобнай біяграфіяй, якая клапацілася асаблівым чынам пра тыя рысы хрысціянскага жыцця, якія ў нас самых ляжаць на сэрцы, або якая проста імпануе нам сваім жыццём. Прыняцце чыйгосьці імені з'яўляецца своеасаблівай хрысціянскай ідэнтыфікацыйнай прыкметай, якая дэкларуе, што мы хочам ісці па слядах канкрэтнай асобы.

Такім чынам, Касцёл заахвочвае кожнага верніка мець другое, "святое" імя. Калі атрымалі яго на сакраманце хросту, можна не вызначацца з "дапаможным" для прыняцця сакраманту канфірмацыі, а можна і ўзяць дадатковае.

Часта моладзь любіць выбіраць прыгожыя імёны, нават не задумваючыся, хто іх насіў. Такі легкадумны падыход пазбаўляе сэнсу традыцыю, якая грунтуецца на ідэі падтрымаць кандыдата ў духоўным развіцці праз дапамогу асобы, што была беатыфікавана ці кананізавана. Таму выбар імені трэба рабіць асэнсавана.



## ХТО ПАВІНЕН БЫЦЬ СВЕДКАМ САКРАМАНТУ КАНФІРМАЦЫІ?

**Ці могуць імі быць праваслаўныя вернікі ці асобы, якія жывуць у грамадзянскім шлюбе?**

Паводле Кодэкса кананічнага права, сведкам сакраманту канфірмацыі можа быць чалавек, які дасягнуў 16-гадовага ўзросту – калі толькі пробашч ці цэлебрант не лічыць, што па важнай прычыне можна зрабіць выключэнне – і ўжо прыняў гэты сакрамант. Ідэальна, калі сведкам сакраманту будзе хросны бацька ці хросная маці кандыдата (тым самым падкрэсліваецца сувязь паміж сакрамантамі хросту і канфірмацыі).

Трэба заўважыць, што сведка канфірмацыі не павінен быць звязаны ніякім кананічным пакараннем, "накладзеным або аб'яўленым законным чынам" (кан. 874, 1/4). У гэтым шэрагу – чалавек, які ўступіў у другі сужэнскі саюз або ўвогуле жыве без шлюбу. Сведкам сакраманту канфірмацыі таксама не можа быць бацька ці маці кандыдата, вернік некаталіцкай канфесіі.

Вельмі важна, каб патэнцыяльны сведка быў прыгодны да гэтага, а значыць жыў у веры. Ён абавязкова павінен мець свядомы намер удзелу ў сакраманце, бо яго далейшым абавязацельствам будзе клопат аб тым, каб канфірмаваны "жыў як сапраўдны сведка Хрыста і верна выконваў абавязкі, якія вынікаюць з гэтага сакраманту" (кан. 892). Такім чынам, быць сведкам сакраманту – значыць не толькі прысутнічаць на ўрачыстасці, але і несці адказнасць, якая вынікае з прыняцця канфірмацыі. Гэта павінна абавязваць з 2-ух бакоў: як кандыдата пры выбары сведкі, так і патэнцыяльнага сведку пры прыняцці адпаведнага рашэння.



## ДА ЧАГО АБАВЯЗВАЕ САКРАМАНТ КАНФІРМАЦЫІ?

**Вернік атрымлівае яго толькі для сябе, ці таксама для карысці іншых?**

Прыняцце сакраманту канфірмацыі ўказвае на сувязь "новага" хрысціяніна з біскупам, які з'яўляецца гарантам і слугой еднасці свайго Касцёла і яго паўсюднасці і апостальства. Такім чынам таксама падкрэсліваецца сувязь з апостальскімі пачаткамі Хрыстовага Касцёла.

Праз прыняцце сакраманту канфірмацыі вернік свядома вызнае сваю веру, а таксама абавязваецца да мужнага сведчання аб ёй іншым, прысягае жыць згодна з Божымі запаведзямі і нястомна клапаціцца пра паглыбленне сваіх рэлігійных ведаў. Выракаецца ўсяго, што звязана з нячыстым і можа прывесці да зла. Інакш кажучы, з гэтага часу хрысціянін становіцца поўнасцю адказным за сваё жыццё.

*Ангеліна Пакачайла*

---

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

***Папа Францішак***



*Мы не павінны забываць, што цэлебруем Эўхарыстыю для таго, каб вучыцца, як станавіцца эўхарыстычнымі мужчынамі і жанчынамі. Што гэта значыць? Значыць дазволіць, каб Хрыстос дзейнічаў у нашых справах: каб Яго думкі былі нашымі думкамі, Яго пачуцці – нашым пачуццямі, Яго рашэнні – нашымі рашэннямі. Гэта і з'яўляецца святасцю: рабіць так, як рабіў Хрыстос. Напрыклад, таго дакладна заўважыў св. Павел, кажучы аб сваім упадабненні да Езуса: "Я ўкрыжаваны разам з Хрыстом. І ўжо не я жыву, а жыве ўва мне Хрыстос. А што цяпер жыву ў целе, то жыву вераю ў Сына Божага, які палюбіў мяне і аддаў сябе за мяне" (Гал 2, 20).*

*Паглыбляючы з'яднанасць з Езусам, Эўхарыстыя абнаўляе ласку, якой Святы Дух адорвае ў хросце і канфірмацыі, каб наша хрысціянскае сведчанне было пераканаўчым. [...] Акрамя таго, распальваючы ў сэрцах Божую любоў, Эўхарыстыя аддзяляе нас ад граху. Чым больш удзельнічаем у жыцці Хрыста і паглыбляем сяброўства з Ім, тым складаней нам разарваць сувязь са Збаўцам праз смяротны грэх. Рэгулярнае прыступанне да эўхарыстычнага стала аднаўляе, умацоўвае і паглыбляе сувязь з хрысціянскай супольнасцю, да якой належым, згодна з прынцыпам: Эўхарыстыя стварае Касцёл і яднае нас усіх.*

*Фрагменты прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 04.04.2018*

***Кс. бп Аляксандр Кашкевіч***



*Хрыстос Уваскрос! Сапраўды Уваскрос! Алелюя!*

*Уваскрос... Колькі ж мільёнаў і мільярдаў разоў на розных мовах і дыялектах у розных кутках свету былі паўтораны гэтыя словы! Уваскрос – значыць паўстаў з памерлых, прытым уласнай моцай, на трэці дзень, так, як прадказаў.*

*Якое значэнне мае ўваскрасенне Хрыста для кожнага з нас сёння? Паколькі Езус паўстаў з мёртвых, значыць, Ён жыве і будзе жыць. "Я – уваскрасенне і жыццё", – сказаў Ён некалі Марыі ў Бэтаніі (Ян 11, 25). І паўтарае тыя ж словы сёння. Яго магіла апусцела і застанецца пустой да канца свету. Ніхто не зачыніць там Езуса зноў.*

*Няхай праўда аб уваскрасенні Хрыста заахвочвае кожнага з нас "шукаць таго, што ў вышынях", як гаворыць св. Павел (параўн.: Клс 3, 1), г. зн. імкнуцца за Збаўцам па дарозе любові да Бога і бліжняга, дарозе памірання для граху і нараджэння для новага жыцця ў Хрысце Пану, дарозе адрачэння і крыжа – да паўнаты жыцця ў хвале ўваскрасення.*

*Фрагменты гамііі, прамоўленай падчас рэзурэкцыйнай св. Імшы ў гродзенскай катэдры, 01.04.2018*



◆ *Святы Айцец Францішак прызначыў старшынёй Папскай рады па інтэрпрэтацыі заканадаўчых тэкстаў арцыбіскупа Філіпа Янонэ, які з мінулага года з'яўляўся дапаможным сакратаром узгаданай дыкастэрыі. Іерарх нарадзіўся ў Неапалі ў 1957 годзе. У 1976 – уступіў у Ордэн кармелітаў, у 1982 – атрымаў прэзбітэрскае пасвячэнне. Абараніў доктарскую дысертацыю па кананічным праве ў Папскім латэранскім універсітэце. У 2001 годзе быў прызначаны дапаможным біскупам Неапальскай архідыяцэзіі, у 2009 – біскупам дыяцэзіі Сора-Аквіна-Понтэкорва, у 2012 – віцэ-рэгентам Рымскай дыяцэзіі.*

◆ *Схоплены кс. Цэлесцін Нганга быў вызвалены пасля перамоў з выкрадальнікамі, якім выплацілі выкуп – паведамілі ў Дэмакратычнай Рэспубліцы Конга. Пробашча парафіі Карамбія схапілі ў Велікодную нядзелю пасля адпраўлення Эўхарыстыі ў адной з капліц, куды ксёндз прыязджаў з паслугай. Яго аўтамабіль спынілі на дарозе ўзброеныя мужчыны. Святара вывезлі ў невядомым напрамку, а вадзіцеля адпусцілі, загадваючы паведаміць аб здарэнні адпаведным касцёльным уладам.*

◆ *У ЗША красавік аб'яўлены Месяцам процідзеяння выкарыстанню дзяцей. Ва ўвядзенні да адпаведнага дакумента прэзідэнт Дональд Трамп адзначыў, што "ўсе дзеці – гэта благаслаўленне Творцы", "ад зачацця яны адораны каштоўнасцю, мэтай і годнасцю чалавека", і заклікаў суайчыннікаў далучыцца да іх абароны. Дарэчы, кіраўнік Злучаных Штатаў не ўпершыню выступае ў падтрымку ініцыятыў pro-life. У кастрычніку мінулага года Дэпартаментам аховы здароўя ЗША афіцыйна прызнана, што чалавечае жыццё пачынаецца ў момант зачацця.*

◆ *Да паломнікаў знакамітага шляху ў Сант'яга-дэ-Кампастэла (Іспанія) далучылася каралеўская сям'я Бельгіі. Да магілы св. апостала Якуба ідуць кароль Філіп I з жонкай Мацільдай, дзецьмі і групай сяброў. Штодня яны пераадольваюць 20–30 кіламетраў. Пілігрымка мае прыватны характар і адбываецца этапамі. Цяперашні этап сям'я скончыць ў мясцовасці Беларадо. Звычайна паломнікі пераадольваюць асобныя адрэзкі гэтага шляху ў дні, вольныя ад працы. Пераадоленне ўсяго шляху часам займае некалькі гадоў.*

◆ *У Польшчы каля 15-ці тысяч чалавек штогод упадаюць у кому. З іх каля 1,5 тысячы не атрымліваецца вывесці з дадзенага стану. У гэтую групу ўваходзяць пацыенты як у вегетатыўным стане, так і ў стане замкнёнасці, калі паралізаваныя ведаюць, што адбываецца вакол іх, але ніяк не могуць кантактаваць са светам. Навукоўцамі з Гданьскага палітэхнічнага ўніверсітэта створана CyberOko. Гэта прылада, якая з дапамогай камеры адсочвае рух вочнага яблыка, дзякуючы чаму пацыент можа "пісаць" паведамленні на маніторы.*

*credo.pro; niedziela.pl; be.radiovaticana.va*

# Святарскае пакліканне: дар і таямніца



**Святарства – гэта не адно з грамадзянскіх правоў, якія па сваёй прыродзе служаць чалавеку, але незвычайны дар Божай любові. Пакліканне ніколі не з'яўляецца такім відавочным, як многія рэчы, што акружаюць нас у будзённым жыцці. Дык як яго распазнаць? На гэтыя і іншыя пытанні, якія датычаць сур'ёзнай падрыхтоўкі да святарскай паслугі, адказвае кс. Ян Сарэла, духоўны айцец Гродзенскай ВДС.**

● працяг са с. 1

***Пакліканне да святарства, як нам прыгадвае Святы Айцец, з'яўляецца адначасова дарам і таямніцай. Якія асноўныя знакі паклікання?***

Асноўным знакам паклікання да святарства і адначасова абавязковай умовай рэалізацыі распазнанага паклікання з'яўляецца асабістая прыязнасць з Хрыстом. Ніхто акрамя Збаўцы не можа аб'явіць яго. А голас Езуса можна пачуць толькі ў хвіліны непасрэднай сустрэчы з Ім.

Чарговым знакам прызначэння да Божай службы, да святарскага стану з'яўляецца тое, што чалавек мае чыстыя інтэнцыі, хоча бескарысліва служыць Пану, захапляецца Хрыстом і прагне Яго пераймаць. Менавіта гэтыя, а не іншыя прычыны, сярод якіх можа аказацца жаданне рэалізаваць уласныя – часта хворыя – амбіцыі, павінны кіраваць маладым чалавекам. Калі ён прагне служыць Хрысту з любові да Яго і да тых, каго Езус паставіць на яго шляху, ніхто не адбярэ ў яго радасць ад усведамлення таго, што стаў святаром. Калі ж хтосьці выбраў святарства, каб мець задавальненне ці заваяваць людскую ўдзячнасць, то ўжо з самага пачатку ён прыгавораны да няўдачы.

***Як распазнаць жыццёвае пакліканне?***

Гэтая справа патрабуе часу, а таксама кампетэнтнай асобы побач. Трэба, каб чалавек на каленях прасіў дапамогі Святога Духа, які праз духоўнага кіраўніка, спаведніка ці пэўныя падзеі ў жыцці ўкажа правільнае рашэнне. Ён павінен старанна працаваць над сабой, каб здолець з чыстым сэрцам сказаць Богу, самому сабе і кіраўнікам, што, усведамляючы адказнасць, ён хоча адказаць на дар Божага паклікання і што не змарнуе гэтага дару.

***Якая роля духоўнага праваднікa ў працэсе фармацыі будучага святара?***

Каб прарасці, насенню неабходна сонца, вільгаць і добрая глеба. Падобна і з кандыдатам да святарства. Чалавек, які пачуў Божы заклік, патрабуе на сваім шляху асаблівай дапамогі. Разумнае спадарожнічанне пакліканым неабходна, каб у адпаведны час яны здолелі прыняць асабістае, вольнае і сталае рашэнне поўнасцю аддаць сябе Хрысту і вытрываць на выбранай дарозе да канца жыцця. Важную ролю ў гэтай справе адыгрывае спаведнік і духоўны кіраўнік. Менавіта яны дапамагаюць распазнаць пакліканне, указваючы бачанне святарства. Без духоўнага кіраўніцтва падрыхтоўка кандыдата немагчымая.

***Многія святары сцвярджаюць, што адкрылі сваё пакліканне дзякуючы іншым асобам. Ці варта зусёды прыслухоўвацца да галасоў дарадчыкаў?***

Гэта павінны быць добрыя дарадчыкі: не тыя, хто ўгаворваюць, вырашаючы за кагосьці, а тыя, хто дапамагаюць адкрыць пакліканне і пачуць голас Бога. Пастараюся растлумачыць на прыкладзе. Уявім сабе, што ў пэўнай парафіі жыве хлопец, які з'яўляецца міністрантам у касцёле, паходзіць з добрай сям'і, набожны, шануе маральныя каштоўнасці. Гледзячы на яго паставу, акружэнне гаворыць: "Ты павінен пайсці ў семінарыю, бо створаны для таго, каб быць ксяндзом". Аднак гэты хлопец не знаходзіць у сваім сэрцы паклікання да святарства. У падобнай сітуацыі не варта мучыць сябе і ісці супраць уласнай волі ў семінарыю.

***Чалавек павінен мець 100% упэўненасці ці мусіць ісці ў семінарыю, нягледзячы на сумненні?***

Можна і трэба ісці, хоць існуюць сумненні. Здаецца, я яшчэ не сустракаў такога чалавека, які з самага пачатку меў бы абсалютную ўпэўненасць, што з'яўляецца асобай, пакліканай да святарства, што павінен прыняць пасвячэнне і стаць ксяндзом. Менавіта для гэтага і існуе семінарыя: каб малады чалавек меў магчымасць разважаць і распазнаваць сваё пакліканне. Сумненні – гэта нармальная справа, асабліва ў сённяшнія часы, калі свет прапануе маладым людзям мноства прывабных дарог.

***Гродзенская семінарыя штогод арганізоўвае рэкалекцыі распазнання паклікання. Ці бачны ўжо плён гэтых мерапрыемстваў?***

З нашага вопыту вынікае, што такія рэкалекцыі вельмі дапамагаюць маладым людзям распазнаць сваё жыццёвае пакліканне. Амаль усе клерыкі, якія сёння вучацца ў Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне, у свой час прымалі ўдзел у такіх духоўных практыкаваннях. Нават сама іх назва гаворыць аб тым, што павінны служыць дапамогай маладому чалавеку. Удзел у такіх сустрэчах не азначае, што іх удзельнік абавязкова павінен стаць ксяндзом. Падобныя рэкалекцыі – нагода, каб задумацца на тым, як рэалізаваць зададзенне, якое Бог ставіць перада мной, г. зн. да чаго Ён мяне заклікае.

Часта здараецца, што маладыя людзі заглушаюць у сабе голас Усемагутнага – пяшчотны, спакойны, ціхі, паколькі Ён ніколі не навязвае нам сваёй волі. Шум і суправаджаючы навакольнага свету ў сваю чаргу спрыяюць таму, што хлопец не можа знайсці сябе. Здараецца і так, што ў сэрцы маладога чалавека Бог ужо засеяў зярнятка паклікання, але бацькі не хочуць на гэта згадзіцца, паколькі мелі для дзіцяці іншы план. Па гэтай прычыне ў сэрцы маладога чалавека нараджаецца няўпэўненасць, сумненні. Таму вельмі важна, каб моладзь прымала ўдзел у такіх рэкалекцыях, бо гэта значыць, што яна задае сабе пытанні і шукае на іх адказы, прагнучы знайсці сябе.

***Святар – гэта хтосьці, хто ўмацоўвае людзей у веры, надзеі і любові. Па гэтай прычыне ён павінен быць сталай асобай: як на чыста чалавечым узроўні, так і на хрысціянскім. Якім чынам адбываецца фармацыя кандыдата, каб ён дасягнуў неабходнага ўзроўню сталасці?***

У Апостальскай адгартацыі "Pastores dabo vobis" указваецца на 4 вымярэнні фармацыі: людское, духоўнае, інтэлектуальнае і душпастырскае. Заданнем людскога вымярэння з'яўляецца, галоўным чынам, фарміраванне ў будучага святара здольнасці да будавання добрых адносін з іншым чалавекам. Мэта духоўнай фармацыі – будаванне глыбокіх і трывалых адносін з Панам Богам. Інтэлектуальная фармацыя ахоплівае філасофска-тэалагічнае навучанне. На шляху да святарства яна адыгрывае незвычайна важную ролю: каб магчы выйсці ў свет і супрацьстаяць праблемам сучаснага грамадства, ксёндз павінен валодаць адпаведнай адукацыяй і ведамі. Падчас душпастырскай фармацыі клерыкі вучацца паказваць людзям Хрыста, які "прыйшоў не для таго, каб Яму служылі, а каб самаму служыць" (параўн.: PDV 57). Менавіта таму алюмны, апрача шматлікіх абавязковых заняткаў, павінны развіваць у сабе ўласныя зацікаўленасці, прысвячаючыся іншым.

***Якім чынам клерыкі развіваюць адчувальнасць да патрэб і цярпенняў іншых людзей?***

Каб быць добрым святаром, трэба перш быць добрым чалавекам, мець адкрытае сэрца. Адной з праверак для будучых ксяндзоў, якія навучаюцца ў гродзенскай семінарыі, з'яўляецца камунікаванне з хворымі і самотнымі пажылымі асобамі, якія знаходзяцца ў Доме міласэрнасці ў Каменцы, а таксама з дзецьмі з Дзіцячых дамоў у Радуні і Галавічполі. Такім чынам клерыкі адкрываюць у сабе бескарыслівую любоў да бліжняга.

***Яшчэ адной важнай умовай падрыхтоўкі да святарства з'яўляецца фарміраванне адпаведнага бачання святара і яго місіі. У чым гэта заключаецца?***

Святарства не з'яўляецца спосабам шукання лёгкага і выгоднага жыцця. Для сапраўднага святара вернасць Хрысту і атрымананаму пакліканню – гэта найвялікшая вартасць. Яна заключаецца ў тым, каб быць сведкам Божай любові і праўды, якая вызваляе з граху, абвяшчаць Добрую Навіну, карміць Божым Целам і дапамагаць у будаванні Божага Валадарства. Добры святар павінен любіць усіх, глядзець вачамі Хрыста. Быць сярод людзей незалежна ад таго, якія яны: добрыя ці дрэнныя, рэлігійныя ці менш рэлігійныя – і быць зацікаўленым. Павінен умець дапасавацца да індывідуальнай сітуацыі іншага чалавека, ставячы на першае месца яго збаўленне. Варта разумець, што прычынай усяго з'яўляецца Бог, а ксёндз – толькі інструмент, памочнік у справе вядзення людзей да Нябеснага Айца.

***Агульнасусветнай тэндэнцыяй з'яўляецца скарачэнне колькасці пакліканняў. Чаму ўсё менш тых, хто прагне адкрываць сэнс жыцця ў Богу?***

Прычын таму вельмі шмат: малады людзі менш сталыя, маюць цяжкасці са зразуменнем паклікання і вернасцю прынятаму рашэнню. Можа, мы замала даём сведчанне і прыклад, не праводзім дастатковай колькасці пакліканневых акцый у парафіях. Лічу, што гэтая сітуацыя з'яўляецца сігналам для нас, людзей Касцёла, што трэба ўзяцца за працу. Вядома, што кліча Бог, але і мы не павінны бяздзейсна адчайвацца з-за таго, што сітуацыя пагоршылася. Трывае I Дыяцэзіяльны сінод, у межах якога створана Камісія па справах пакліканняў. Мы прагнем глыбей засяродзіцца над гэтым пытаннем.

***Якую ролю адыгрывае малітва вернікаў у інтэнцыі пакліканняў?***

Малітва ў інтэнцыі пакліканняў адыгрывае вялізную ролю, паколькі Езус казаў: "Прасіце, і будзе дадзена вам; шукайце, і знойдзеце; стукайце, і адчыняць вам" (Мц 7, 7). Гродзенскі Касцёл актыўна моліцца за кандыдатаў да святарскай службы. У кожны першы чацвер месяца адбываюцца адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту ў інтэнцыі духавенства. Многія вернікі індывідуальна моляцца за ксяндзоў аб умацаванні, асвячэнні і вядзенні Святым Духам, аб дапамозе і благаслаўленні, ахвяруючы за іх свае цярпенні, клопаты і боль, радасці і добрыя ўчынкі.



*Пасля некалькіх гадоў выпрабаванняў і разважання над сваім пакліканнем дыяканы публічна вызнаюць гатоўнасць служыць Хрысту і Касцёлу*

**Падчас Тыдня малітвы аб пакліканнях Касцёл асаблівым чынам запрашае нас далучыцца да малітвы аб новых пакліканнях, а таксама за тых, хто ўжо пакліканы Богам, каб верна пераймаць Езуса Хрыста, Добрага Пастыра. Гэтае запрашэнне скіравана ўсім нам. Дык давайце – кожны ў адпаведнасці са сваімі здольнасцямі – адкажам на яго. Няхай не толькі гэты тыдзень, але і іншыя дні года будуць часам з'яднання ў малітве ўсіх вернікаў у інтэнцыі тых, хто прагне з адказнасцю выканаць місію, даручаную ім Богам.**

*Кінга Красіцкая*

# Аборт – праца над памылкамі... Бога?



**Ва ўрачыстасць Звеставання Пана вернікі ва ўсіх парафіях Беларусі маглі далучыцца да "Духоўнага ўсынаўлення" – малітоўнай акцыі ў абарону зачатага жыцця, якое знаходзіцца пад пагрозай знішчэння. Гэта можна зрабіць і ў любы другі момант. Чаму так важна не заставацца абыякавымі да такой ініцыятывы? Наколькі яна актуальная ў сучасным свеце?**

Па дадзеных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, штогадовая колькасць выпадкаў перапынення цяжарнасці ў свеце (уключаючы нелегальныя) складае каля 50-ці мільёнаў. Гэта значыць, што больш за 20% цяжарнасцей заканчваюцца абортам. Да параўнання: у II Сусветнай вайне загінула 42 мільёны чалавек. Вось чаму сёння так часта гаворыцца пра "цывілізацыю смерці". Людзі займаюцца самазнішчэннем, не задумваючыся пра жудасць сваіх намераў і далейшыя наступствы.

*"Шмат гадоў таму я зрабіла аборт. У тысячны раз пытаюся ў сябе: навошта? А ў душы толькі адзін адказ – боль... Тады я зачапілася за пачутыя словы, што ўва мне ўсяго толькі згустак клетак і не больш за тое. Ніхто не засцярог, не сказаў, што нашу пад сэрцам маленькую істоту. Я ні ў каго не знайшла падтрымкі... Калі б толькі ведала пра наступствы страшнага граху, які здзейсніла праз забойства свайго дзіцяці! Пра тое пачуццё віны, глыбокай страты, якая будзе праследаваць мяне ўсё жыццё! Пра тыя душэўныя раны, якія ніколі не загояцца...".*

Часта аборты робяцца па медыцынскіх паказаннях. Але ці здымае гэта адказнасць з бацькоў ненароджанага дзіцяці? Чаму людзі імкнуцца "выправіць" памылкі, якія нібыта дапусціў Бог?

*"Мы з мужам даведаліся, што станем бацькамі. Аднак нашу радасць хутка азмрочыла страшная навіна. На УГД урачы сказалі, што дзіця мае высокую рызыку нарадзіцца з сіндромам Дауна, і парэкамендавалі зрабіць аборт. Мы перажылі сапраўдны шок! Але ўсё ж вырашылі, што прымем любое дзіця, бо яно з'яўляецца плодам нашай любові. З гэтага дня пачалася барацьба за жыццё маленькага чалавека. Шматлікія аналізы, візіты да генетыкаў і іншых лекараў. Цяжарнасць праходзіла ў бясконцых перажываннях і стрэсах. Мы ўвесь час маліліся ў надзеі на цуд. І ён здарыўся! У нас нарадзілася абсалютна здаровая дзяўчынка...".*

Бог ніколі не памыляецца. І калі Ён стварыў новае жыццё, значыць, яно патрэбна на гэтай зямлі. Задача бацькоў – прыняць гэтае жыццё і даць яму прыйсці ў свет.

*"У нашай сям'і нядаўна нарадзілася чацвёртая прынцэса-дачушка. Яна для нас асаблівае дзіця – выпакутаванае, выплаканае. Такі яшчэ маленькі чалавек, але ўжо сапраўдны баец. Нягледзячы на страшныя дыягназы яна жывая! І кожным сваім днём сведчыць аб тым, што ў Бога няма нічога немагчымага. Шмат хто спачувае нам, гаворыць: «За што вам такі крыж, дзіця-інвалід?». Але мы лічым дачку Божым бласлаўленнем. Яна вучыць нас быць больш памяркоўнымі, верыць і спадзявацца, што ўсё абавязкова атрымаецца. Вучыць любіць, цаніць кожнае імгненне, праведзенае побач з блізкімі людзьмі. Вучыць пакорліва прымаць усе жыццёвыя выпрабаванні, бо без цярпення не бывае сапраўднага кахання...".*

Акрамя малітоўнай ініцыятывы "Духоўнае ўсынаўленне" ў Касцёле дзейнічае малітоўная група "У абарону жыцця", члены якой не толькі моляцца за ненароджаных дзяцей, што знаходзяцца пад пагрозай аборту, але і прымаюць удзел у розных мерапрыемствах, накіраваных на абарону сямейных хрысціянскіх каштоўнасцей. Да яе таксама можа далучыцца любы жадаючы.

*Пры падрыхтоўцы артыкула былі выкарыстаны ананімныя сведчанні з разважанняў Крыжовага шляху, праведзенага сёлета падчас Вялікага посту ў парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне ўдзельнікамі руху "У абарону жыцця".*

*Ангеліна Пакачайла*




Часам вельмі стомлены пасля доўгага працоўнага дня заўважаеш у аўтобусе свабоднае месца. І ўжо накіроўваешся, каб заняць яго, але на прыпынку заходзіць старэнькая асоба з каляскай. Нешта ўнутры спадзвігае цябе падысці, дапамагчы падняцца па таких няручных прыступках і прапанаваць тое самае адзінае вольнае месца. Пасля бліжні адорвае цябе поглядам, поўным падзякі, і незразумелае цяпло разліваецца ўнутры, дзесьці ля сэрца. Так, ты працягнеш стаяць, але нязмерная падзяка ў вачах гэтага чалавека зніме тваю стому і дадасць сіл. Здавалася б, чаму так адбываецца? Так моцна нечага прагнуў, але аддаў так хутка і проста таму, хто патрабуе гэтага больш. Проста ўсё накіравана на ўзаемнасць. Галоўнае – не чакаць падзякі ці ўзнагароды за свае ўчынкі, бо гэта ўжо зусім іншае.

Шмат сотняў гадоў таму Хрыстос, несучы непамерна цяжкі крыж не сваіх правін, не чакаў падзякі ад прысутных там людзей. Ён проста любіў усіх разам і кожнага паасобку, не зважаючы на сацыяльнае ці матэрыяльнае становішча. Ведаў усё тое, што нехта, магчыма, так старанна хаваў ад самога сябе, але працягваў ісці. Вось Той, на каго хочацца раўняцца!

Сёння нярэдка можна сустрэць людзей нешчаслівых. Чалавек можа мець шмат матэрыяльных даброт, але ўсё роўна адчуваць недахоп у нечым дзесьці глыбока ўнутры. І як у такім выпадку дапамагчы? Вельмі проста: трэба ўсяго толькі падзяліцца сваім "хлебам". Гэта можа быць усмешка ці простая размова на штодзённыя тэмы. А можа, яму не хапае малітвы? Можа, ён і сам баіцца сабе ў гэтым прызнацца. Але калі ў табе жыве Божая любоў, адчуеш гэта і зразумееш, што рабіць.

Насамрэч, усім нам не хапае любові, шчырасці і кропелькі адвагі на кожны дзень. Наколькі больш было б шчасця, калі б не саромеліся выказваць свае пачуцці. Мы настолькі зраненыя эмацыянальна, што ствараем сабе агароджу, штыхецінкі якой з гонарам узвышаюцца па-над нашым эгаізмам. Але чаго патрабуем на самой справе? Лю-бо-ві! Кожны хоча, каб яго любілі такім, якім ён створаны, а калі гэтага не адбываецца, хаваецца за сваю агароджу.

Здаецца, няма таго, хто проста прыняў бы цябе. І тады варта ўспомніць, што існуе Нехта, хто любіць нас без нейкага патаемнага намеру, без умоў. Паглядзі навокал: пасля кожнай цёмнай ночы ўзыходзіць сонейка, халодная зіма змяняецца цёплай вясной. Усё гэта для Цябе, каб урэшце заўважыў, што не адзін. Спыні свой позірк на крыжы: вось Той, для каго Ты – найцаннейшы дыямент. З кожным павевам ветрыку Ён абдымае Цябе, з кожнай удзячнай усмешкай надае сілы. І ўзамен нічога не патрабуе, бо любіць проста за тое, што Ты ёсць. А Ты здзіві Яго: спыні штодзённы бег, прыйдзі ў нядзельку і скажы, што таксама Яго вельмі любіш...

*Марыя Валюк*

## З КАТАЛІЦКІХ СМІ

**CatholicNews.by**

### Свет убачыла кулінарная кніга папы Францішка

***Яна называецца "За сталом Францішка. Яго апавяданні і рэцэпты, якія дораць смак жыцця". Аўтарам выдання выступіў Раберта Альбаргеці.***

*У кнізе апісаны этапы жыцця Хорхе Марыя Бергоіла з дзяцінства да сённяшніх дзён з пункту гледжання яго адносін да фізічнай і духоўнай ежы. Між іншым, згадваецца аб неўспрыняцці марнатраўства, нярoўнасці ў доступе да ежы і сацыяльнай няроўнасці, ліхаманкавым, пустым і небяспечным спажывальніцтве і, у той жа час, аб вядзенні "кухні рэштак", паважлівай да прыроды і прадуктаў – плёну чалавечай працы і Божага дару.*

*Выданне багата ілюстравана і пераплецена анекдотамі (напрыклад, пра катлеты, якімі яго маці дзялілася з беднымі). Кніга змяшчае 40 простых рэцэптаў, натхнёных сустрэчамі, падарожжамі, досведам і ўспамінамі пра дзяцінства Папы.*

**Catholic.by**

### Апостальскую адгартацыю прэзентавалі ў Ватыкане

***Яна выйшла пад назвай "Gaudete et Exsultate" ("Радуйцеся і весяліцеся"). Прысвечана пакліканню да святасці ў сучасным свеце.***

*"Gaudete et Exsultate" стала 3-яй Апостальскай адгартацыяй папы Францішка. У 2013 годзе выйшла "Evangelii gaudium" ("Радасць Евангелля"), прысвечаная абвяшчэнню Евангелля ў сучасным свеце, а ў 2016 годзе – "Amoris laetitia" ("Радасць любові") аб любові ў сям'і.*

**wiara.pl**

### Музеі запрашаюць на світанні!

***Гэта навейшая ініцыятыва заўсёды перапоўненых музеяў, якія ад красавіка да кастрычніка арганізоўваюць таксама вячэрнія візіты.***

*Музеі Ватыкана прапануюць унікальнае ранішняе наведванне разам з ключнікам (а 6-ій гадзіне раніцы). Пасля яго ўдзельнікі запрашаюцца на сняданак у бары ў адным з двароў музея.*

*Самы вялікі козыр гэтай новай, уражлівай прапановы – выключная магчымасць увайсці ў музеі у невялікай групе наведвальнікаў, у цішыні і без натоўпу, які ёсць там кожны дзень. Можна пры гэтым прыняць удзел у цырымоніі адкрыцця наступных пакояў з папскімі калекцыямі і Сікстынскай капэлы, а таксама ў запальванні святла ў калідорах і пакоях.*

# Каляндар падзей

***22 красавіка***
*Нядзеля Добрага Пастыра, якая распачынае Сусветны тыдзень малітвы аб пакліканнях да службы ў Касцёле. Молімся ў інтэнцыі новых святарскіх, манаскіх і місійных пакліканняў з нашых зямель.*

***23 красавіка***
*Літургічны ўспамін св. Юрыя, мучаніка. Дзень імянін Святога Айца Францішка. Памятаем у малітве пра шаноўнага Імянінніка.*

***23 красавіка***
*Літургічны ўспамін св. Войцеха, біскупа і мучаніка.*

***25 красавіка***
*Свята св. евангеліста Марка.*

***26 красавіка***
*Гадавіна ядзернага выбуху ў Чарнобылі (1986). Молімся за ахвяр гэтай трагедыі і аб аддаленні ад чалавецтва пагрозы атамнага бедства і вайны.*

# Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***“Голас Евангелля”***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку “Eutelsat Hotbird 13” на канале “Radio Vaticana Telepace”. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале “Культура” Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

# Ружанцовыя інтэнцыі

***Красавік***
*Каб беспрацоўныя і бяздомныя жыхары дыяцэзіі знайшлі годныя ўмовы для сябе і сваіх сем’яў.*

## НАВІНЫ



### СВЯТЫ ПРАЦЯГВАЮЦЦА!

Сярод вернікаў прадаўжае панаваць атмасфера Велікоднай урачыстасці. У Сапоцкіне прайшло Свята пісанкі. Яго ўдзельнікі змаглі пазнаёміцца з незвычайнымі экспанатамі яек, дэкараванымі ў розных тэхніках. З невылечна хворымі людзьмі радасцю Уваскрасення Пана падзяліўся гурт душпастырства студэнтаў і старэйшай моладзі “OPEN”. Маладыя людзі выступілі з канцэртам у стацыянары хоспіса гарадской клінічнай бальніцы №3 г. Гродна. Імпрэза адбылася ў межах традыцыйнай праграмы з серыі “Музычны полудзень”. У парафіях св. Мікалая, біскупа, у Геранёнах (дэканат Іўе) і св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску моладзь падрыхтавала ўвазе мясцовых вернікаў велікодныя пастаноўкі.

Урачыстасць Уваскрасення Пана прадоўжылася святам Божай Міласэрнасці, якое адзначаецца ў Касцёле ў 1-ую нядзелю пасля Вялікадня. Напярэдадні ў катэдры св. Францішка Ксаверыя ў Гродне па традыцыі адбылося начное чуванне.

З нагоды свята ў санктуарыі Божай Міласэрнасці ў Воранаве (дэканат Радунь) ардынарый Гродзенскай дыяцэзіі біскуп Аляксандр Кашкевіч узначаліў св. Імшу. На малітве сабраліся мясцовыя вернікі, а таксама пілігрымы, якія прыбылі з розных парафій дэканата і з суседняй Літвы.

У нядзелю Божай Міласэрнасці вернікі з касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча ў Сапоцкіне здзейснілі штогадовую пілігрымку ў парафіяльную капліцу ў Свяцк, дзе знаходзіцца абраз “Езу, давяраю Табе”.

### БІСКУПСКІЯ ВІЗІТЫ



Падчас візіту ў парафію Божай Міласэрнасці ў Астрыне біскуп Юзаф Станеўскі ўдзяліў вернікам сакрамант канфірмацыі. Сакрамант хрысціянскай сталасці з рук біскупа Аляксандра Кашкевіча прынялі маладыя вернікі з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне.

Падчас візіту ў Перстунь (дэканат Сапоцкін) ардынарый Гродзенскай дыяцэзіі асвяціў аднаўлены касцёл Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі.

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫ СІНОД



У рамках працы сінода адбылося пасяджэнне дэканаў Гродзенскай дыяцэзіі. Сабраныя, між іншым, прынялі ўдзел у св. Імшы ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне, якая была цэлебравана ў інтэнцыі падзякі за 27-годдзе існавання Гродзенскай дыяцэзіі і прэканізацыю біскупа Аляксандра Кашкевіча.

### ПАРАФІЯЛЬНАЯ АДПУСТЫ



Дзень імянін сваіх святынь нядаўна адсвяткавалі парафіяне санктуарыя Божай Міласэрнасці ў Воранаве (дэканат Радунь), касцёлаў Божай Міласэрнасці ў Гродне, Лідзе, Доцішках (дэканат Радунь), Астрыне (дэканат Шчучын), Падароску (дэканат Ваўкавыск) і капліц Божай Міласэрнасці ў Хадзілонях (дэканат Шчучын), Лошы і Завельцы (дэканат Астравец), Палецкішках (дэканат Радунь), Свіслачы (дэканат Гродна-захад), Свяцку (дэканат Сапоцкін); а таксама касцёлаў Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне, Міжэрычах (дэканат Слонім) і Перстуні (дэканат Сапоцкін).

Бліжэйшыя адпусты ў Гродзенскай дыяцэзіі адбудуцца ў касцёлах св. Юрыя, мучаніка, у Беліцы (дэканат Ліда), Новай Рудзе (дэканат Гродна-ўсход), Осаве (дэканат Радунь), Варнянах (дэканат Астравец), капліцах св. Юрыя, мучаніка, у Свіранках і Вароне (дэканат Астравец), Імя Марыі і св. Юрыя ў Пераломе (дэканат Гродна-ўсход).

### АДНЫМ РАДКОМ



• Пасяджэнне ККББ адбылося ў Гродне. • У 8-ую гадавіну авіякатастрофы пад Смаленскам за загінуўшых памаліліся ў гродзенскай базіліцы св. Францышка Ксаверыя. • У гадзіну смерці св. Яна Паўла II – 21.37 (2 красавіка) – удзельнікі душпастырства студэнтаў і старэйшай моладзі “OPEN” разам з душпастырам кс. Антоніем Грэмзам сабраліся разам, каб праз малітву даверыць свайму апекуну дзейнасць супольнасці. • У парафіях Святой Сям’і ў Лідзе і св. Францішка Ксаверыя ў Гродне ў літургічную службу алтара былі прыняты новыя кандыдаты. • У кляштары Ордэна Братоў Меншых Канвентуальных у Непакаланаве (Польшча) адышоў у вечнасць а. Інацэнт Шумоўскі OFMConv, які шмат гадоў служыў пробашчам і душпастырам парафіі Маці Божай Анёльскай у Гродне.

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі* ***grodnensis.by.***

# У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**19 красавіка 1947 г.** – кс. Марцін Пузырэўскі, *проб. Адэльск;*
**24 красавіка 1991 г.** – кс. Аляксандр Цярэшка, *проб. Воўпа;*
**24 красавіка 1992 г.** – кс. Ян Мяноўскі, *проб. Рагозніца;*
**24 красавіка 2005 г.** – а. Венантый Вількаш CSsR, *проб. Рэпля;*
**25 красавіка 1984 г.** – кс. Юзаф Мацееўскі, *проб. Заневічы;*
**28 красавіка 1944 г.** – кс. Ільдэфонс Бобіч, *проб. Іўе.*

## АНОНСЫ

### “СУЖЭНСКІЯ СУСТРЭЧЫ” АДБУДУЦЦА Ў ЛЯСКОЎЦЫ

**Чарговыя рэкалекцыі для сямейных пар будуць праходзіць 20–22 красавіка ў цэнтры дабрачыннага таварыства “Карытас” каля Бараўлянаў (Мінскі р-н).**

“Сужэнскія сустрэчы” – гэта рэкалекцыйны рух, мэтай якога з’яўляецца паглыбленне партнёрскіх адносін, асэнсаванне мужам і жонкай таямніцы шлюбу, дапамога ім у лепшым разуменні адно аднаго. Сужэнствам таксама прапануецца форма дыялогу, на аснове якой пары навучаюцца знаходзіць выхад з канфліктных сітуацый у выпадку непаразуменняў.

*Начлег і пасілак удзельнікам спаткання забяспечваюць арганізатары. Неабходныя ўмовы: прысутнасць на сустрэчах абодвух сужэнцаў (без дзяцей), удзел ва ўсёй праграме.*

***Кантакты:***
*(8 029) 779-19-03 – Вольга; (8 029) 250-06-99 – Аляксандр.*

### АДНАДЗЁННЫЯ РЭКАЛЕКЦЫІ АДБУДУЦЦА Ў МАСТАХ

**Духоўныя практыкаванні пад назвай “Выхад з рабства Егіпта ў зямлю абяцаную” пройдуць 21 красавіка ў парафіі Маці Божай Тройчы Цудоўнай.**

**Праграма:**
13.00 – канферэнцыя “Егіпет і мая пустыня”;
15.00 – Вяночак да Божай міласэрнасці;
– канферэнцыя “Зямля абяцаная, радасць, боль і страта веры”;
17.30 – св. Імша;
– малітвы аб вызваленні і аздараўленні.

*Арганізатары запрашаюць на рэкалекцыі ўсіх жадаючых.*

### VIII ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНЫ ДЗЕНЬ ДЗІЦЯЦІ АДБУДЗЕЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Мерапрыемства пройдзе 2 чэрвеня на тэрыторыі парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (мікрараён Паўднёвы) пад дэвізам “Будзь дзіцём Бога!”.**

Арганізатары рыхтуюць цікавую насычаную праграму (забавы, гульні, конкурсы), а найперш малітву, Эўхарыстыю, якую ўзначаліць біскуп. Да распрацоўкі плана сустрэчы заахвочваюцца ўсе жадаючыя. Тым, хто хацеў бы прадставіць тэатральную сцэнку, спеў на сцэне або мае іншыя прапановы, якія маглі б узбагаціць мерапрыемства, прапануецца папярэдне скантактавацца з арганізатарамі.

На сустрэчу запрашаюцца дзеці з Гродзенскай дыяцэзіі, а таксама з іншых куткоў Беларусі, каб разам у малітве і забаве добра правесці час. Колькасць удзельнікаў не абмежаваная. Арганізатары забяспечваюць кожнаму харчаванне на працягу дня.

**Умовы ўдзелу:**
• узрост удзельнікаў – да 14-ці гадоў;
• суправаджэнне апекуном (1 на 10 дзяцей);
• асабісты ўзнос у памеры 0,5 бел. руб. (існуе магчымасць вызвалення ад яго пасля размовы з арганізатарамі);
• наяўнасць пры сабе кубка і коўдры або дыванка.

*Аб сваім удзеле неабходна паведаміць да 26 мая кс. Юрыю Марціновічу, арганізатару і адказнаму за Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці, на e-mail sakralna@op.pl або па тэлефоне (8 029) 784-05-72.*

У сувязі з судовым працэсам у Касцёльным судзе Гродзенскай дыяцэзіі **спадара Глыбаўца Уладзіміра Сяргеевіча,** які 22.09.1996 г. у касцёле Маці Божай Анёльскай у Гродне заключыў сужэнскі саюз са **спадарыняй Карабко Ірынай Іванаўнай,** просім звярнуцца ў сядзібу Касцёльнага суда ў Гродне (вул. К. Маркса, 4) або патэлефанаваць па нумары (8 0152) 75-64-37.

Чытачоў, якія ведаюць адрас пражывання ці валодаюць якой-небудзь інфармацыяй аб месцы побыту спадара Глыбаўца Уладзіміра Сяргеевіча, просім перадаць гэтую інфармацыю ў Касцёльны суд.

# Ад шчырага сэрца

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**

з нагоды Дня нараджэння жадаем нястомнай радасці, душэўнага супакою, моцнага здароўя, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і людской добразычлівасці. Шчасці Божа!

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

**Паважанаму Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму**

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, моцнага здароўя, душэўнага супакою і неабходных сіл для рэалізацыі планаў і намераў. Няхай Добры Пастыр вядзе Вас праз жыццё, а Маці Божая няспынна апекуецца.

*З малітвай, апостальства "Маргарытка"*

**Іх Эксцэленцыям Ксяндзам Арцыбіскупу Тадэвушу Кандрусевічу, Біскупам Аляксандру Кашкевічу, Юзафу Станеўскаму, Юрыю Касабуцкаму, Антонію Дзям'янку, Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму, Айцу Казіміру Жылісу, Ксяндзам Аляксандру Сямінскаму, Руслану Мазану, Анджэю Ганчару, Паўлу Скубу, Валерыю Спірыдону, Юрыю Ясевічу, Паўлу Безляповічу, Валерыю Быкоўскаму, Аляксандру Мацкевічу, Віталію Дабраловічу, усім Ксяндзам Гродзенскай дыяцэзіі і Клерыкам Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне**

з нагоды Велікодных свят жадаем, каб святло ўваскрослага Хрыста асвячала жыццёвы шлях, сэрцы напаўняліся Божай любоўю, Найсвяцейшая Маці апекавалася Вамі, дадавала стойкасці і цярплівасці, а Святы Дух адорваў сваімі ласкамі. Жадаем таксама моцнага здароўя, душэўнага супакою, людской добразычлівасці.

*З малітвай, апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Глыбокапаважаным Ксяндзам Арцыбіскупу Тадэвушу Кандрусевічу, Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму, Ксяндзам Віталію Внароўскаму, Альгімантасу Паўлікасу, Валерыю Быкоўскаму, Андрэю Лішко, Яну Кузюку, Валерыю Спірыдону, Аляксандру Вараб'ёву, Генрыху Яблонскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем, каб дарога, на якую Вас паклікаў Хрыстос, была шляхам да святасці. Няхай шляхетная паслуга абвяшчэння Добрай Навіны прыносіць радасць і спрыяе будаванню еднасці Касцёла. Няхай Вас заўсёды падтрымлівае моц Святога Духа, а Маці Хрыстова стала абараняе і чувае над Вамі.

*З малітвай, вернікі з адэльскай парафіі*

**Глыбокапаважаным Ксяндзам Біскупам Аляксандру Кашкевічу і Юзафу Станеўскаму, Ксяндзам Пробашчу Дзмітрыю Урбановічу, Артуру Валчкевічу, Валерыю Быкоўскаму, Ксяндзу Рэдактару Юрыю Марціновічу і ўсім Супрацоўнікам рэдакцыі, а таксама Хрысціянам Смаргоншчыны**

з нагоды Велікодных свят жадаем, каб сэрцы напаўняліся светлай пасхальнай радасцю. Няхай уваскрослы Езус адорыць Вас моцным здароўем і сіламі, умацуе веру ў перамогу міру і любові, аб'ядноўваючы нас да выканання добрых спраў. Няхай промні Божай міласэрнасці асвецяць кожны дзень Вашага жыцця.

*Апостальства "Маргарытка" з парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Павайбу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят складаем букет сардэчных пажаданняў. Няхай міласэрны Бог адорвае Цябе моцным здароўем, радасцю, душэўным супакоем і людской зычлівасцю. Жадаем усіх патрэбных ласкаў ад Святога Духа на кожны дзень, апекі Маці Божай і святога Заступніка.

*Бацькі, сёстры і брат*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Віталій Чурган!**

З нагоды Велікодных свят ад шчырага сэрца жадаем, каб уваскрослы Езус адарыў Вас моцным здароўем, цярплівасцю, стойкасцю, душэўным супакоем і ўсімі патрэбнымі ласкамі на кожны дзень святарскай паслугі. Няхай Найсвяцейшая Маці заўсёды Вамі апекуецца.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Юрацішкаў*

**Паважаныя Ксёндз Пробашч Віталій Чурган і Сястра Зоф'я Смятанка!**

З нагоды Велікодных свят ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, стойкасці ў адданай службе Богу і людзям, душэўнага супакою і ўсіх Божых ласкаў. Няхай на дарозе, якую ўказаў Пан, побач з Вамі заўсёды будуць Езус і Яго Маці, а жывы агонь Святога Духа, які палае ў сэрцы, ніколі не аслабне.

*З павагай, дзеці і моладзь з парафіі Перамянення Пана з Юрацішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Віталію Чургану**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем шчодрых дароў нашага Пана, Езуса Хрыста, шмат радасці, акая плыве з гэтых свят, а таксама супакою, надзеі і сілы ў вядзенні люду да Бога.

*Сем'і Каспяровіч, Шчоцкіх, Машута*

**Паважаным Ксяндзам Здзіславу Пікулу, Аляксандру Пятровічу, Казіміру Мураву і Алегу Жураўскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай кожны дзень будзе шчаслівы і блаславёны, сэрца напаўняе радасць, любоў і надзея, у душы жыве супакой, а з твару не сходзіць усмешка. Жадаем таксама моцнага здароўя, шмат сіл і цярплівасці ў пастырскай паслузе.

*Вернікі з парафіі Дзятлава*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Ёдзіку**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят сардэчна жадаем, каб святарскі шлях быў шчаслівы і блаславёны. Няхай уваскрослы Езус апраменіць Вас сваімі ласкамі, адорыць добрым здароўем на доўгія гады жыцця, сілай і стойкасцю, каб маглі пераадольваць усе цяжкасці. Сардэчна дзякуем за чулае сэрца і руплівую душпастырскую працу ў нашай парафіі.

*Вернікі з Цудзенішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Кучынскаму**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, аптымізму, каб кожная хвіліна жыцця была сонечнай і шчаслівай. Няхай вочы ззяюць ад шчасця, а з твару не сыходзіць радасная ўсмешка. Жадаем таксама дароў Святога Духа, сталай дапамогі і апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай міласэрны Бог за ўсё Вам шчодра аддзячыць!

*Малітоўная група МБ Кангрэгацкай*

**Паважаным Ксяндзам Здзіславу Вэдэру, Аляксандру Мятліцкаму, Паўлу Раманоўскаму, Казіміру Мураўскаму, Алегу Каралю і Алегу Жураўскаму, Клерыку Марку Найдзічу, Сёстрам Марыі Стасевіч, Мар'яне Алешчык, Аляксандры Арэшка, Філатэі Ціхановіч, Агаце Смольскай, Клары Волчэк, Ірыне Барцэвіч, Вераніцы Блізнюк, Вераніцы Огар і Дар'і Еўтухоўскай**

з нагоды Велікодных свят складаем сардэчныя пажаданні. Няхай уваскрослы Езус адорыць Вас моцным здароўем і ўсімі патрэбнымі ласкамі, каб кожны дзень прыносіў радасць і задавальненне ад выконваемай паслугі. Жадаем таксама апекі Маці Божай і шчодрых дароў Святога Духа.

*Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважаным Ксяндзам Паўлу Шанчуку, Ігнату Санюту, Віталю Чабатару, Станіславу Мацукевічу, Паўлу Урбану**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана складаем сардэчныя пажаданні. Няхай уваскрослы Езус адорыць Вас дарамі любові, здароўя, супакою, мудрасці, розуму і мужнасці, а Маці Божая нястомна апекуецца і вядзе найлепшай дарогай да Пана. Жадаем таксама патрэбных сіл у выкананні пастырскага служэння. Ад усяго сэрца дзякуем за адданую службу Богу і людзям.

*Вернікі з парафіі МБ Шкаплернай, Прывалка*

**Паважаным Ксяндзам Алегу Кудэрку, Віталію Сідорку, Мікалаю Ціхановічу і Андрэю Радзевічу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай уваскрослы Езус адорыць Вас радасцю, напоўніць надзеяй, верай і супакоем. Жадаем таксама моцнага здароўя, аптымізму, стойкасці ў пакліканні і шчодрага плёну ва ўсіх справах.

*Душпастырства службы аховы здароўя*

**Паважаным Ксяндзам Прэлату Антонію Філіпчыку, Юрыю Садоўскаму, Яну Кузюку, Генрыху Яблонскаму, Сястры Агнешцы і ўсім Сёстрам, якія працуюць у нашай парафіі,**

з нагоды Велікодных свят складаем сардэчныя пажаданні: няспыннай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, дароў Святога Духа і Божага блаславення на кожны дзень. Жадаем таксама душэўнага супакою, здароўя, сіл і радасці.

*Касцёльны хор і ўдзячныя сем'і з парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Юрыю Грыцко і Ігару Анісімаву**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, нястомных сіл у душпастырскай працы, душэўнага супакою і ажыццяўлення ўсіх высакародных планаў і намераў. Няхай Маці Божая штодзённа Вамі апекуецца, а Святы Дух адорвае ўсімі неабходнымі ласкамі.

*Вернікі з парафіі Першамайск і капліцы ў Хадзілонях*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Віталію Чургану, Яну Гавецкаму, Мікалаю Ціхановічу**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят складаем шчырыя пажаданні: шчодрых дароў Святога Духа, здароўя на доўгія гады, нязгаснага запалу ў працы. Няхай уваскрослы Езус заўсёды блаславляе Вас на дарозе святарства, а Маці Божая абараняе і ахінае моцнай любоўю і апекай.

*З павагай, Людміла і Юрый Езерскія з Юрацішкаў*

**Паважаным Ксяндзам Алегу Яновічу і Віталію Цыбульскаму, Сёстрам Ірэне, Марыі і Зоф'і**

з нагоды Вялікага чацвярга і Велікодных свят жадаем нястомнага аднаўлення праз Святога Духа, каб былі верныя свайму пакліканню, а таксама шчодрага плёну на ніве Пана. Няхай трыванне побач з Хрыстом будзе ўзнагароджана радасцю Уваскрасення, а Марыя ахіне Вас сваёй любоўю і мацярынскай апекай.

*Легіён Марыі і апостальства "Маргарытка", парафія Іўе*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Раману Ялоўчыку**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана перасылаем букет найлепшых пажаданняў: блаславення ад Хрыста, дароў Святога Духа, нястомнай апекі Маці Божай, радасці ад паклікання, стойкасці на святарскім шляху і моцнага здароўя.

*Апостальства "Маргарытка" і парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла ў Гнезне*

**Паважанаму Ксяндзу Раману Ялоўчыку**

з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана жадаем мноства Божых ласкаў: здароўя, радасных дзён, зычлівых людзей побач, апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай святарскі шлях будзе шчаслівы і блаславёны.

*Былыя парафіяне з Навіянкі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Цэрабею**

з нагоды свят Змёртвыхпаўстання Хрыста і Імянін складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Усемагутны дадае Вам моцы і здароўя, Езус Хрыстус блаславляе кожны Ваш дзень, Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух няспынна спасылае дары для рэалізацыі планаў і намераў у цяжкай, але цудоўнай і высакароднай пастырскай паслузе.

*З пашанай і ўдзячнасцю, парафіяне з Баруная*

**Паважаны Ксёндз Андрэй Пышынскі!**

Шчыра віншуем Вас з нагоды Дня святара і Велікодных свят. Жадаем моцнага здароўя, натхнення і вытрымкі на доўгія гады душпастырскага служэння. Ніхто, акрамя Хрыста, да канца не ведае, якія вялізныя намаганні даводзіцца прыкладваць святару ў сваім служэнні. Нягледзячы на гэта, у Вашых вачах мы бачым любоў і дабрыню. Як знак Божай любові ўспрымаем тое, што дзякуючы Вашым намаганням маем магчымасць сустракацца з Панам у аднаўлёным касцёле Ад шчырага сэрца жадаем, каб Бог за ўсё Вам аддзячыў.

*Былыя парафіяне з Казлоўшчыны, Падвялікага і Рандзілаўшчыны*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Спірыдону**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем Божага блаславення, апекі Найсвяцейшай Маці, шчодрых дароў Святога Духа, а таксама цудоўнага плёну на ніве Пана. Дзякуем за тое, што аб'ядноўваеце нас на малітве, вучыце ісці па шляху, які вядзе да пяднання з Богам, падаеце прыклад мудрага слова і духоўнай моцы. Няхай Усемагутны дапамагае Вам у нялёгкім служэнні.

*З малітвай, Касцёльны камітэт і вернікі касцёла ў Рандзілаўшчыне*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Уладзіміру Гуляю, Віталію Сідорку, Алегу Кананoвічу, Дзянісу Бразінскаму, Дыякану Эрнэсту Мікалайчыку, Клерыкам Томашу Мікалайшчыку і Андрэю Струкелю, Сёстрам Галіне Занеўскай і Агнэс Астраух, Ксяндзу Станіславу Пацыну і ўсім тым, хто працаваў у нашай парафіі,**

з нагоды Вялікага чацвярга і Велікодных свят складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Найсвяцейшая Маці нястомна моліцца за Вас, ахінае апекай і з пяшчотай прытуляе да свайго сэрца, а Усемагутны дапамагае ў ажыццяўленні планаў і адорвае патрэбнымі ласкамі Вашых бацькоў.

*З малітвай, Касцёльны камітэт і парафіяне, Ліда-Фара*

**Паважаным Айцам Пробашчу Вітольду Пяцельчыцу, Аляксандру Махначу, Віталію Сярко, Яну Асіповічу, Віталю Слуку**

з нагоды Дня святара і Велікодных свят складаем сардэчныя пажаданні: Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, дароў Святога Духа, апекі Маці Божай, а таксама моцнага здароўя, сілы, радасці і шчодрага плёну душпастырскай паслугі.

*Парафіяне і Біблійнае кола са Шчучына*

**Паважаны Айцец Віталій Сярко!**

З нагоды Дня святара і свят Вялікадня жадаем здаровых, спакойных дзён жыцця, поўных веры, надзеі і любові, а таксама радасці, што плыве са з'яднання з Хрыстом, і шчодрых дароў ад Яго. Дзякуем за паслугу, зычлівасць, малітву, мудрыя казанні. Няхай Пан Бог блаславляе і сцеражэ, а Марыя абараняе і атуляе сваёй мацярынскай любоўю.

*Рыцары Беззаганнай са Шчучына*

**Паважаным Айцу Віталію Сярко і ўсім Айцам Піярам са Шчучына**

з нагоды свят Уваскрасення Пана складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, дароў Святога Духа і апекі Маці Божай. Дзякуем за павучальныя казанні, добрыя парады, адкрытыя сэрцы. Шчыра ўдзячныя Вам за кожнае слова, прамоўленае падчас рэкалекцый.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Астрыны*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Гедройцю**

з нагоды свят Змёртвыхпаўстання Пана жадаем Божага блаславення, моцы Святога Духа і сталай апекі Найсвяцейшай Маці на кожны дзень святарскай паслугі.

*Парафіяльная рада з касцёла ў Гальцы*

працяг на с. 8

# Ад шчырага сэрца

**Паважаны Ксёндз Пробашч Павел Барысевіч!**
З нагоды Дня святара, Велікодных свят і Дня нараджэння жадаем Вам здароўя, сіл і стойкасці на святарскім шляху. Няхай жыццё будзе асвечана промнямі Божай міласэрнасці і любові, Уваскрослы блаславіць кожны дзень, Святы Дух адорыць патрэбнымі ласкамі, а Маці Божая нястомна апекуецца Вамі. Дзякуем за адданасць у служэнні, а таксама за клопат аб нашым касцёле.
*Кола Жывога Ружанца і парафіяне з Наваельні*

**Паважаным Ксяндзам Юрыю Марціновічу, Андрэю Лысаму, Сяргею Ангуру і Айцу Андрэю Жылевічу**
з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем блаславлення ўваскрослага Хрыста, моцы Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і цудоўнага плёну на Божай ніве.
*Апостальства "Маргарытка", Сураж*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Андрэю Роўбу**
з нагоды Дня святара жадаем моцнага здароўя, Божага блаславлення, апекі Найсвяцейшай Маці, радасці і супакою. Няхай Хрыстос узнагародзіць Вас за святарскую паслугу.
*Касцёльны камітэт з парафіі Перамянення Пана ў Вавёрцы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Стволу**
з нагоды Дня святара і свят Уваскрасення Пана жадаем моцнага здароўя, супакою ў душы і радасці ў сэрцы. Няхай Езус Хрыстус дадае Вам сіл для паслугі на Божай ніве, узмацняе надзею і адорвае сваімі каштоўнымі ласкамі. Прысвячайце жыццё Богу – і Ён узнагародзіць Вас у сваім Валадарстве!
*Апостальства "Маргарытка" і парафіяльная рада з касцёла ў Рэплі*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Федуку**
з нагоды Дня святара, Велікодных свят і Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, сіл і стойкасці, веры, надзеі і любові. Дзякуем за ўдзяленне дару Эўхарыстыі, цудоўнае абвяшчэнне Божага слова, ахвярную працу, цярплівасць, дабрыню і веліч сэрца.
*Парафіяне і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з касцёла ў Ражанцы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Жэгарыну**
з нагоды Дня святара, Велікодных свят і Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай уваскрослы Езус надалей асвячае Ваш жыццёвы шлях, адорвае шчодрымі ласкамі і моцным здароўем, Святы Дух спрыяе развіццю Вашага таленту, натхняючы на новыя творчыя ідэі, дадае нястомнасці ў ахвярным служэнні, каб заставаліся надзеяй і радасцю Касцёла. Няхай Бог аддзячыць маме за Вас!
*Касцёльны камітэт і парафіяне з касцёла св. Міхала Арханёла, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Навагрудка і Любчы*

**Паважаным Ксяндзам Віктару Мыслюку і Леону Лішыку, Айцу Аляксандру Дрогасю**
з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца жадаем шчодрых ласкаў і блаславлення ад уваскрослага Хрыста, здароўя, радасці, супакою і шчасця. Няхай кожны дзень будзе поўны Божай любові.
*Вернікі з парафіі Воўпа*

**Паважанаму Ксяндзу Яну Сарэлу**
з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем шмат сіл, цярплівасці, безупыннай надзеі, нязгаснага запалу да працы, а ў першую чаргу – шчодрых ласкаў ад уваскрослага Хрыста.
*Ружанцовае кола св. Юзафа, парафія Воўпа*

**Паважаным Ксяндзам Яну Сарэлу, Віктару Мыслюку, Леону Лішыку**
з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні: Божага блаславлення, здароўя, стойкасці ў душпастырскай працы. Няхай добры Бог адорыць Вас сваімі ласкамі, а Маці Божая няспынна служыць сваёй дапамогай.
*Генрых Дзямешчык, Мар'я Вішнеўская, Марыя з сям'ёй*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку**
з нагоды Велікодных свят, Дня нараджэння і Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, стойкасці і цярплівасці. Няхай Усемагутны адорвае Вас сваімі ласкамі, Езус Хрыстус будзе прыкладам на святарскім шляху, Святы Дух апраменьвае святлом, а Маці Божая прытуляе да свайго сэрца. Памятаем і любім!
*Сябры*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку**
з нагоды свят Уваскрасення Пана і Дня нараджэння жадаем шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень душпастырскай паслугі, нястомнай апекі Панны Марыі, Маці святароў, дароў Святога Духа і багатага плёну на ніве Пана.
*Былыя парафіяне з капліцы Вердамічы*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Канапельку**
з нагоды Дня святара, свят Уваскрасення Пана, Дня нараджэння і Імянін жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, усмешкі на твары і шмат радасці. Няхай уваскрослы Езус напаўняе сваёй моцай, Святы Дух адорвае патрэбнымі дарамі, а Панна Марыя заўсёды чувае над Вамі. Жадаем, каб кожны дзень жыцця быў асвечаны промнямі Божай любові і міласэрнасці.
*З павагай і малітвай, парафіяне з Поразава і Студзенікаў*

**Паважанаму Айцу Станіславу Садоўскаму**
з нагоды Дня святара і Велікодных свят перасылаем сардэчныя пажаданні: усіх Божых ласкаў, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці, здароўя, сіл, душэўнага супакою і зычлівых людзей побач.
*З павагай і малітвай, парафіяне з Поразава*

**Паважаным Айцам Пробашчу Юрыю Саковічу і Ануфрыю Альховіку**
з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем, каб Уваскрослы адарыў Вас моцным здароўем, натхненнем, цярплівасцю і вытрымкай у служэнні дзеля ратавання людскіх душ. Мы Вас вельмі паважаем і любім.
*Удзячныя парафіяне з Карэлічаў і Варончы*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Саковічу**
з нагоды Дня нараджэння і Імянін жадаем спакойных гадоў жыцця. Няхай добры Бог, які паклікаў Вас да святарства, дапамагае ў нялёгкім служэнні, Найсвяцейшая Маці і святы Заступнік ахінаюць сваёй апекай, а Анёл-ахоўнік заўсёды будзе побач. Шчасці Божа!
*Парафіяне і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Карэлічаў і Варончы*

**Паважанаму Айцу Анджэю Шчупалу**
з нагоды Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, сілы, радасці, Божага блаславлення і апекі Найсвяцейшай Маці на кожны дзень душпастырскай паслугі.
*Сям'я Заяц*

**Паважанаму Айцу Вальдэмару Слоту**
з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем здароўя, доўгіх гадоў жыцця і апекі Маці Божай. Няхай уваскрослы Хрыстос адорвае Вас супакоем і блаславленнем. Шчыра дзякуем за клопат аб парафіянах і святыні. Шчасці Божа!
*Вернікі з парафіі Перамянення Пана ў Вялікай Бераставіцы*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Тадэвушу Крыштопіку, Андрэю Лішко, Люцыяну Дамброўскаму, Лешку Дамагалу, Марку Занеўскаму, Прэлату Юзафу Трубовічу, а таксама ўсім Святарам**
з нагоды Вялікага чацвярга і свят Уваскрасення Пана жадаем добрага здароўя, сіл і вытрымкі на душпастырскім шляху. Няхай уваскрослы Езус адорыць Вас надзеяй на лепшае заўтра, Марыя Панна атуліць плашчом мацярынскай апекі, а Святы Дух будзе шчодрым на свае дары.
*Вернікі з капліцы Божай Міласэрнасці ў Свіслачы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Андрэю Бураку**
з нагоды Велікодных свят перасылаем словы падзякі, пераплеценыя са шчырымі пажаданнямі здароўя, Божых ласкаў, дароў Святога Духа і апекі Панны Марыі. Няхай побач будуць толькі добразычлівыя людзі. Шчасці Божа!
*З малітвай і павагай, парафіяне з Лаздунаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яўгену Барысюку**
з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем, каб добры Бог адарыў Вас усімі неабходнымі ласкамі і ўзмацніў у святарскім служэнні. Няхай уваскрослы Езус дапамагае ў рэалізацыі ўсіх планаў і намераў, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі. У малітвах просім, каб Усемагутны шчодра аддзячыў Вашым бацькам за такога сына.
*Вернікі з парафій Казловічы і Верцялішкі*

**Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**
з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем, каб жыццё было напоўнена толькі добрымі справамі. Няхай уваскрослы Езус адорыць Вас здароўем, сілай, цярплівасцю, Яго Найсвяцейшая Маці атуліць бязмежнай любоўю, а Святы Дух спашле свае шчодрыя дары.
*Касцёльны камітэт і парафіяне з касцёла Нараджэння НПМ, Дуды*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Яну Радзюку, Паўлу Урбану, Тадэвушу Крыштопіку, Паўлу Звяжынскаму і ўсім Святарам, якія працавалі ў нашай парафіі,**
з нагоды Дня святара і Велікодных свят ад усяго сэрца дзякуем за тое, што адказалі на голас Хрыста. Мы вельмі ўдзячныя за Вашу сардэчнасць, усмешкі, зычлівасць, дапамогу. Жадаем, каб па прыкладзе Езуса Вы былі добрымі пастырамі і дасягнулі святасці.
*Вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Астукевічу**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, радасці, дароў Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, шмат сіл і стойкасці ў вядзенні людзей да Хрыста.
*Вернікі з парафіі Індура*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Аляксандру Раманоўскаму, Антонію Адамовічу, Андрэю Зайко, Прэлату Юзафу Трубовічу**
з нагоды Дня святара і Велікодных свят складаем сардэчныя віншаванні. Маці Божая даручыла Сына ў Вашыя рукі. Няхай Яна ахінае Вас сваёй апекай, а Езус блаславіць святарскую паслугу. Дзякуем за цярплівасць, адказнасць, клопат, любоў і павагу да кожнага з нас.
*Вернікі з касцёла Гродна-Паўднёвы*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму**
з нагоды свят Уваскрасення Пана складаем сардэчныя пажаданні. Няхай кожны дзень будзе напоўнены цяплом, радасцю і надзеяй. Няхай рэалізуюцца ўсе планы, уваскрослы Хрыстос шчодра блаславляе, а Найсвяцейшая Маці вядзе шчаслівым шляхам.
*Жыхары в. Шэмбелеўцы*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Віктару Велівісу і Яўгену Ціхану, Сястры Ядзвізе Мяцеліцы**
з нагоды Вялікага чацвярга і Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, доўгіх і шчаслівых гадоў жыцця, душэўнага супакою, бязмежнай радасці. Няхай святло ўваскрослага Хрыста асвячае Ваш шлях, Маці Божая дадае сіл і стойкасці, а Святы Дух шчодра ўдзяляе свае дары.
*Парафіяне з Грандзічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу**
з нагоды Імянін, Дня святара, Велікодных свят і свята Божай Міласэрнасці жадаем шмат здароўя, стойкасці ў служэнні Богу і людзям, нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова, а таксама добрых і зычлівых людзей на святарскім шляху. Няхай уваскрослы Езус адорвае Вас сваім блаславленнем, а Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае плашчом мацярынскай апекі.
*Вернікі з парафіі Божай Міласэрнасці, Доцішкі*

**Паважаным Ксяндзам Аляксандру Баклажцу і Юрыю Свіслоцкаму, Сёстрам Марыне, Аўгусціне, Іардане, Рэгіне, Дароце і Аляксандры**
з нагоды Велікодных свят жадаем шмат радасці, цяпла, шчодрых Божых ласкаў і супакою. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя прытуляе Вас да свайго мацярынскага сэрца і дапамагае ў цяжкія хвіліны жыцця.
*Клерык Віталій Валюк і сям'я Саўко*

**Паважанаму Ксяндзу Яцэку Маркелю**
з нагоды Велікодных свят жадаем шчодрых ласкаў ад уваскрослага Хрыста, моцнага здароўя, сонечных дзён, напоўненых шчасцем. Няхай з твару ніколі не знікае ўсмешка, а сэрца поўніцца Божай прысутнасцю. Памятаем пра Вас у сваіх малітвах.
*Былыя парафіяне з Зэльвы: сем'і Трубей і Раманчук*

**Паважаным Ксяндзам Дзмітрыю Несцеру, Юрыю Марціновічу і Віктару Савіцкаму**
з нагоды Дня святара і Велікодных свят жадаем патрэбных ласкаў ад Уваскрослага, моцнага здароўя, душэўнага супакою, нястомнай радасці, зычлівых людзей побач. Няхай Вашае жыццё будзе шчаслівым і блаславленым.
*Ружанцовыя колы і вернікі з в. Вінцукі*

**Паважаным Ксяндзу Аляксандру Лебядзевічу і Сястры Зоф'і Смятанцы**
з нагоды Велікодных свят жадаем моцнага здароўя, спакойных дзён у Божай ласцы. Няхай Святы Дух асвятліць Ваш жыццёвы шлях, а Маці Божая атуліць любоўю і пяшчотай.
*Парафіяне з Жамыслаўля*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Захарэўскаму**
з нагоды Дня нараджэння жадаем шчодрых Божых ласкаў, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці, дароў Святога Духа, добразычлівых людзей побач. Няхай агеньчык, запалены Богам у Вашым сэрцы, надалей гарыць яркім полымем. Шчыра дзякуем за малітву, навуку і сардэчнасць.
*Вернікі з капліцы ў Данілавічах*

**Дарагому Ксяндзу Валянціну Хведуку**
з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, шматлікіх Божых ласкаў. Няхай Найсвяцейшая Маці апекуецца Табой у кожную хвіліну жыцця, а Усемагутны адорвае айцоўскім блаславленнем.
*Родныя*

**Шаноўнай Спадарыні Эміліі Саўко**
з нагоды 80-гадовага юбілею складаем сардэчныя пажаданні: здароўя, шчодрых Божых ласкаў, блаславлення ад уваскрослага Хрыста, апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай штодня Вас цешаць дзеці, унукі і праўнукі. Шчыра дзякуем за актыўны ўдзел у жыцці парафіяльнай супольнасці. Аддзяч, Божа!
*Суседзі, сям'і і вернікі з парафіі Казловічы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валянціну Хведуку**
з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Евангелля, душэўнага супакою і штодзённай радасці. Няхай сам Пан Бог ганарыцца плёнам Вашай працы і ў знак удзячнасці ахінае Вас усімі ласкамі, а Маці Божая апекуецца і суправаджае на дарозе жыцця. Няхай побач заўсёды будуць добрыя і зычлівыя людзі. Шчасці Божа!
*Парафіяне в. Моцевічы*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч**; Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4**; Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл: **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by**.
Друк: **ГАУПП «Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2084; тыраж 4945; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная